© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

МІЖНАРОДНАЕ ГРАМАДСКАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

№7 ЧЭРВЕНЬ 2002

# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



БЮЛЕТЭНЬ ІНФАРМАЦЫЙНАГА ЦЭНТРА «БЕЛАРУСЬ АБ'ЯДНАНАЯ»

## Урачыстасці

200 гадоў з дня нараджэння Ігната Дамейкі!

Ігнат Дамейка (1802 – 1889) – беларус, нацыянальны герой Чылі, сусветнавядомы вучоны. Па адной з версій І. Дамейка нарадзіўся ў ліпені ў в. Мядзведцы (Наваградчына), па-другой у Сітцах (Докшыччына). У 14 гадоў ён паступіў на фізіка-матэматычны факультэт Віленскага універсітэта. Яшчэ студэнтам Дамейка далучыўся да патрыятычнага руху, прымаў удзел у Таварыстве філаматаў. Па заканчэнню універсітэта ён атрымаў ступень магістра філасофіі. Але ў 1823 годзе Ігнат Дамейка трапіў пад следства, у выніку якога быў высланы з Вільні пад нагляд паліцыі ў вёску Заполле на дчыне, што, аднак, не перашкодзіла яму ўзяць удзел у паўстанні супраць царскіх уладаў 1830 - 1831 гадоў.

Ігнат Дамейка першым у Еўропе склаў геалагічную, гідраграфічную і гаспадарчыя мапы зямель былой Рэчы Паспалітай. Вымушаны жыць у выгнанні, Ігнат Дамейка адкрыў у 1840 г. у Андах від срэбнай руды. У Сант'яга ён кіраваў кафедрай хіміі і перыядычна, з 1867 па 1883 г., займаў пасаду рэктара. Наш зямляк здзейсніў шматлікія навуковыя экспедыцыі ў Чылі, Бразілію, Уругвай, Перу і Аргенціну, пад час якіх зрабіў шэраг адкрыццяў. Яго імя атрымаў знойдзены ім мінерал, а таксама горад.





## ВІНШАВАННЕ!

### Паважаная і дарагая спадарыня Зора Кіпель!

Кіраўніцтва Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна вітае і віншуе Вас з юбілеем, 75-годдзем з дня нараджэння.

Усё Ваша жыццё прысвечана беларускай справе, адданасці ідэі незалежнасці Беларусі і росквіту Бацькаўшчыны. Атрымаўшы грунтоўную прафесійную адукацыю ва універсітэтах Лювена і Нью-Брукліна, Вы, спадарыня Зора, аддалі навуковым пошукам у гісторыі беларускай літаратуры і бібліятэчнай справе, асвеце і нацыянальнай культуры беларускага замежжа. Даследчыкам добра вядомы Вашыя манаграфіі "Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе", хрэстаматыя і бібліяграфія "Беларуская дзяржаўнасць", даследаванні па беларускай літаратуры XVII стагоддзя, асабліва пераклад на англійскую мову "Аповесці аб Трышчане", каментарыі і навуковыя даследаванні аб беларускіх этнічных элементах гэтай аповесці, што была распаўсюджана ў свой час у Беларусі.

Агульнавядомы Ваш унёсак у наладжванне пастаянных навуковых кантактаў з беларускай грамадстасцю пад час навуковых канферэнцый у Беларусі. Па-ранейшаму Вы актыўна ўдзельнічаеце ў мерапрыемствах нашага аб'яднання.

У дзень юбілею зычым Вам, дарагая спадарыня Зора, шмат гадоў плённага творчага жыцця, новых поспехаў у беларускай справе, сямейнага шчасця і добрага здароўя.

*Управа МГА*
*"Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"*

## Анонс!

13 – 14 ліпеня 2002 г. у Вільні адбудзецца **III канферэнцыя беларусаў Балтыі**. Канферэнцыю ладзіць Таварыства беларускай культуры на чале з яго кіраўніком Хведарам Нюнькам. Мерапрыемства будзе праходзіць у будынку Тэхналагічнага універсітэта (былой Беларускай гімназіі). У канферэнцыі будуць браць удзел больш за 70 дэлегатаў – кіраўнікоў і сяброў беларускіх арганізацый з Беларусі, Латвіі, Літвы, Эстоніі, Расіі, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, ЗША, Францыі і Германіі. Будуць прысутнічаць у якасці гасцей прадстаўнікі ўрада Літвы, амбасадаў замежных краін, кіраўнікі іншых дыяспар, якія пражываюць у Літве. На канферэнцыі будуць абмяркоўвацца як літоўскія, так і беларускія пытанні, і, зразумела, праблемы жыцця і дзейнасці беларусай дыяспары ў Літве.



Самай папулярнай песняй ЗША, па агульнаму прызнанню, з'яўляецца песня "Божа, блаславі Амерыку" ("God, Bless America"), дзе людзі ўсяго свету жывуць разам, адной сям'ёй у волі. Словы і музыку да гэтай песні напісаў Ірвінг Берлін. Упершыню яна была выканана на ўсю краіну ў Дзень памінавення 11 лістапада 1933 г. Праз некалькі дзён яе пела ўся краіна, і хутка песня стала неафіцыйным гімнам ЗША. Сапраўднае імя амерыканскага кампазітара Ірвінга Берліна – Ізраіль Бейлін. Ён нарадзіўся ў беларускім горадзе Магілёве 11 мая 1888 г. у сям'і кантара (галоўнага спевака) мясцовай сінагогі. Хутчэй за ўсё, гэта і паўплывала на лёс будучага кампазітара. Пяці год ён разам з бацькамі, у 1893 г., ад'ехаў у ЗША.

*"Аргументы и факты в Беларуси". 2002. 5 чэрв.*

навіны

## Іркуцк, Расія

22–25 мая іркуцкае Таварыства беларускай культуры імя Я. Чэрскага наведала Новасібірск. Там іркуцкі беларускі фальклорны гурт "Ленушка" і некаторыя актывісты ўдзельнічалі ў святе "Дні славянскай духоўнасці і культуры", а таксама ў афіцыйным адкрыцці Праваслаўнай Царквы св. Еўфрасінні Полацкай. 31 мая – Дзень прыбайкальскіх беларусаў – 6 год існавання Іркуцкага таварыства. У гэты дзень у Доме Дружбы адбылася літаратурная вечарына, прысвечаная 120-годдзю Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гучала іх біяграфія, вершы, песні на іх словы. На Купалле да таварыства збіраюцца прыехаць госці са Швейцарыі – аматары фальклору і экзотыкі.

*А. Рудакоў*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



### Лондан, Вялікабрытанія

Англа-беларускае таварыста правяло святкаванне традыцыйнага беларускага летняга свята. 15 чэрвеня ў суботу адбылося Купалле ў Беларускім культурным і рэлігійным цэнтры ў Лондане. Праграма ўключала фальклорныя песні, гульні, танцы, вогнішча.

### Нью-Ёрк, ЗША

Старшыня Беларускага інстытута навукі і мастацтва Вітаўт Кіпель, сябра прэзідыума Рады БНР Янка Запруднік, сустаршыня Кааліцыі ў абарону дэмакрытыі і правоў чалавека ў Беларусі Аляксандр Сільвановіч, старшыня Беларуска-Амерыканскага задзіночання Антон Шукелойц выступілі з заявай "Пра пагром беларускіх літаратурных часопісаў урадам Рэспублікі Беларусь". У заяве гаворыцца, што "Нядаўняя пастанова ўрада Беларусі аб стварэнні холдынга, у руках якога будуць фінансы на выдаванне літаратурных перыёдык і прызначэнне на пасаду галоўных рэдактараў літаратурных часопісаў асоб, гатовых выконваць урадавы кантроль, – гэта яшчэ адзін крок у наступе на беларускую нацыянальную культуру". Заява заклікае "ўсіх прыхільнікаў справы нацыянальнага адраджэння Беларусі як на Бацькаўшчыне, гэтак і ў дыяспары падтрымліць беларускіх пісьменнікаў усякімі магчымымі спосабамі ў іхнай абароне сваіх правоў ды магчымасцяў нармальнай творчай працы. Няхай сёлетняе 120-годдзе народзінаў волатаў літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа станецца годам узмацнення нашай агульнай адданасці справе далейшага развіцця ў свабодных умовах літаратуры як выказніка волялюбных імкненняў беларускага народу".

### Ванкувэр, Канада

Упершыню за апошнія гады пачалі збірацца на сходкі беларусы ў Ванкуверы. У красавіку і маі адбыліся дзве такія сустрэчы. Першая адбылася 27 красавіка і была прымеркавана да Чарнобыльскай даты. Але гэта была і першая сустрэча беларусаў новай эміграцыі ў Ванкуверы. Былі дыскусіі, знаёмствы і згода з тым, што такія сустрэчы вельмі важныя для ўсіх прыехаўшых з Беларусі. 26 мая многія з тых, хто прыходзіў на першую сустрэчу, зноў сабраліся, цяпер ужо на прыродзе, каб працягнуць пачатыя размовы і падумаць пра далейшыя шляхі стварэння спрыяльнага асяроддзя для маральнага, псіхалагічнага і бытавога развіцця на зямлі Паўночнай Амерыкі. Ініцыятарамі і арганізатарамі гэтых сустрэч былі ў Ванкуверы спадарыня Валянціна Лапцэвіч і спадарыня Ірына Беразуцкая. Для тых, хто жадае паглядзець на здымкі з апошняй сустрэчы і, магчыма, убачыць сваіх знаёмых, заходзьце, калі ласка, на веб-сайт: www.welcome-to-vancouver.com

### Таронта, Канада

Каардынацыйны камітэт беларусаў Канады выказаў падтрымку Саюзу беларускіх пісьменнікаў. Гэта звязана з праблемамі, якія ў апошнія гады перажывае СБП. Дзяржава адняла ў саюза Дом літаратара, паліклініку, а з ліпеня 2001 г. не выплачвае заробак супрацоўнікам пісьменніцкай арганізацыі. Акрамя таго, без узгаднення з кіраўніцтвам СБП былі заменены рэдактары шэрага вядучых літаратурных часопісаў Беларусі. У сваім звароце д-р Р. Жук-Грышкевіч заклікала ўрад Беларусі "выконваць свой доўг – падтрымліваць нацыянальную літаратуру і спрыяць яе развіццю". У звароце таксама заклік да ўсіх беларусаў замежжа "падтрымліваць беларускіх пісьменнікаў у іх абароне сваіх правоў і магчымасцяў нармальнай работы".

### Свіраны, Літва

На радзіме Францішка Багушэвіча, у Свіранах, што пад Вільняй, знікла мемарыяльная дошка ў гонар па[illegible] Беларускі нацыянальны сцяг, які быў прымацаваны побач, спалілі.

*"Наша слова". 2002. 31 мая.*

### Вільня, Літва

У Таварыстве беларускай культуры адбылася сустрэча з фальклорным калектывам "Ветах" з Мінска. Удзельнікам усяго па 14 – 16 гадоў, але, нягледзячы на юны ўзрост, артысты на сцэне адчувалі сябе ўпэўнена, добра і прафесійна падрыхтаванымі. Яны ў Вільні выконвалі фальклорныя песні, вадзілі карагоды. Усе ўдзельнікі былі ў нацыянальных строях.

*"Наша слова". 2002. 12 чэрв.*

Навіны МГА «ЗБС «Бацькаўшчына»

### "Бацькаўшчына" інфармуе

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" завяршае працу па ўзнаўленню базы дадзеных беларускай дыяспары. На працягу больш за паўгады арганізацыям беларускай дыяспары прапаноўвалася запоўніць анкету "Бацькаўшчыны", якая ўтрымлівала пытанні па самых розных аспектах дзейнасці суполак беларускай дыяспары. Апрацоўка адказаў беларускай дыяспары заняла больш за чатыры месяцы і зараз любы, хто жадае пазнаёміцца з дзейнасцю той ці іншай арганізацыі дыяспары, ці наогул даведацца пра суполкі беларусаў далёкага і блізкага замежжа, здолее зрабіць гэта на сайце "Бацькаўшчыны" – **www.zbsb.ogr**

База дадзеных – гэта не проста спіс беларускіх арганізацый. У ёй вы зможаце даведацца аб тым, дзе існуюць беларускія цэрквы ды касцёлы, якія ёсць помнікі беларускім дзеячам, дзе навучанне дзяцей вядзецца па-беларуску, якія беларускія бібліятэкі працуюць у замежжы. Зараз з'явілася першая частка базы. Ідзе праца над дапаўненнем і ўдасканаленнем другой. Свае заўвагі, меркаванні і прапановы дасылайце на наш электроны адрас: zbsb@lingvo.minsk.by . *Да ўвагі арганізацый беларусаў замежжа: просьба да тых арганізацый, інфармацыя аб якіх адсутнічае ў базе дадзеных, тэрмінова даслаць інфармацыю для наладжвання супрацоўніцтва і размяшчэння на сайце.*

### Рэфармацыя і Залаты век Беларусі

1 чэрвеня 2002 г. МГА "Згуртаванне беларусаў све[illegible] "Бацькаўшчына" правяло навукова-практычную канферэнцыю "Рэфармацыя і Залаты век Беларусі", удзельнікамі якой сталі вядомыя гісторыкі, філосафы, грамадскія дзеячы, а таксама служыцелі евангельскіх цэркваў усіх дэнамінацый. Канферэнцыя ставіла сваёй мэтай даследаванне ўплыву Рэфармацыі на развіццё беларускага грамадства ў XVI ст., вывучэнне прычын Залатога веку Беларусі. Адкрыў канферэнцыю доктар гістарычных навук, прафесар Анатоль Грыцкевіч дакладам "Рэфармацыя ў Еўропе", у якім было паказана развіццё рэфармацыйнага руху. У наступным дакладзе "Поліэтнічны характар культуры Вялікага Княства Літоўскага" д-р філалагічных навук, прафесар Адам Мальдзіс паказаў, што Залатое стагоддзе ў гісторыі Беларусі – гэта XVI стагоддзе. Філасофскі і багаслоўскі аспекты Рэфармацыі былі асветлены ў дакладзе Станіслава Акінчыца "Рэфармацыя – узнаўленне першапачатковага вобраза". Пасля выступленняў дакладчыкаў сваімі назіраннямі, меркаваннямі наконт розных аспектаў падзей XVI ст. і сённяшняй сітуацыі дзяліліся іншыя ўдзельнікі канферэнцыі. Вынікам канферэнцыі стала згода ўдзельнікаў на далейшыя сустрэчы, прысвечаныя Рэфармацыі ў Беларусі, а таксама заява аб неабходнасці святкавання ў 2003 г. 450-годдзя Рэфармацыі ў Беларусі.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## Вільня, Літва

6 чэрвеня ў Вільні адбылася цырымонія ўзнагароджання прэміяй імя Барыса Кіта выдатнага беларускага журналіста, супрацоўніка Радыё "Свабода" Валерыя Каліноўскага і беларускага паэта Алега Мінкіна, які жыве ў Вільні, шмат робіць для развіцця беларускай справы, з'яўляецца галоўным рэдактарам газеты "Рунь". На ўрачыстай цырымоніі, якая адбылася ў Музеі Адама Міцкевіча, прысутнічалі прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Літве, літоўскія дзеячы, першы лаўрэат прэміі імя Барыса Кіта Лідзія Савік, якая расказала пра жыццё і дзейнасць славутага беларускага вучонага. Прэмію ўручаў доктар Ёханес Шлотц, які ўзначальвае арганізацыю беларуска-нямецкіх сустрэч, створаную пры Берлінскім свабодным універсітэце і які з'яўляецца не толькі вядомым нямецкім вучоным, прафесарам Свабоднага нямецкага універсітэта Берліна, але і нястомным арганізатарам практыкі беларускіх студэнтаў у Германіі.

## Ізяслаў, Украіна

Паэтычная імпрэза, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Янкі Купалы была арганізавана гуртам беларускай культуры "Зорка Венера" ў г. Ізяславе. Імпрэзу адкрыў сваім паведамленнем кіраўнік гурта П. Капчык. Вершы Янкі Купалы на беларускай мове чыталі вучні, якіх вучыць Пятрусь Капчык. У канцы ўдзельнікі вечарыны прагледзелі відэафільм "Мінск. Спатканне вясны".

## Гайнаўка, Польшча

Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі прайшоў ужо ў 21-шы раз у Гайнаўцы. Конкурсныя праслухоўванні і канцэрты праходзілі не ў Свята-Троіцкім саборы, як звычайна, а ў Доме культуры, зала якога не можа пахваліцца ні добрай акустыкай, ні той колькасцю слухачоў, якую збірае сабор. Да таго ж, царква забараніла ўдзел у фэсце ўсім прыхадскім харам Польшчы. Гэтыя факты шырока асвятляліся ў польскай прэсе, выказваліся трывожныя меркаванні, што падобны раскол зусім невыпадковы і прыйшоўся на час надзвычай высокага еўрапейскага ўзроўню фестывалю.

*"Культура". 2002. 8 – 14 чэрв.*



## Беласток, Польшча

У Беластоцкім амфітэатры 9-га чэрвеня прайшло традыцыйнае 17-е па ліку Свята беларускай культуры. На ім прэзентаваліся лаўрэаты песенных конкурсаў, фестывалю беларускай песні, а таксама госці з Беларусі – ансамбль "Зарапіца" (Нясвіж), Я. Навуменка, С. Восіпаў. Арганізатарам свята выступіла Беларускае грамадска-культурнае таварыства. На свяце прысутнічалі ваявода Беластока, дыпламаты, у тым ліку пасол Беларусі ў Польшчы М. Крэчка, польскія і беларускія палітычныя дзеячы.

*"Ніва". 2002. 23 чэрв.*

## Беласток, Польшча

Роўна на сваё 44-годдзе, 8 чэрвеня, сабрала Беларускае літаратурнае аб'яднанне "Белавежа" сваіх сяброў на чарговы справаздачна-выбарчы з'езд. Справаздачу аб дзейнасці аб'яднання трымаў ягоны старшыня Ян Чыквін. За апошнія 2 гады аб'яднанне пастаянна праводзіла літаратурныя сустрэчы-семінары, былі выдадзены 3 нумары "Тэрмапілаў", 3 нумары "Год беларускі", выдадзены 26 кніг і адна Анталогія. Абрана новая ўправа "Белавежы" і кіраўніцтва: старшыня – Ян Чыквін, намеснік – Сакрат Яновіч.

*"Ніва". 2002. 23 чэрв.*

## Парыж, Францыя

У штаб-кватэры ў Парыжы адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця выставы, прысвечанай 200-й гадавіне нацыянальнага героя Чылі, беларуса, Ігната Дамейкі. Выстава праводзілася сумеснымі намаганнямі Беларусі, Літвы, Польшчы, Францыі і Чылі – краін, з якімі былі звязаны жыццё і дзейнасць І. Дамейкі. Сярод экспанатаў ад Беларусі былі прадстаўлены карціны з пейзажамі родных мясцін І. Дамейкі работы мастака з Ліды Р. Грушы.

## Кохтла-Ярве, Эстонія

Беларуска-Эстонскае згуртаванне "БЭЗ" святкавала 120-годдзе з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа разам з Беларускім паэтычным тэатрам "Зьніч". У імпрэзе бралі ўдзел не толькі сябры іншых нацыянальных суполак, але і мясцовыя жыхары. Спектакль, прадстаўлены Галінай Дзягілевай і Кірылам Успенскім (гітара) называўся "Мне сняцца сны пра Беларусь" і распавядаў пра трагічны лёс паэта Янкі Купалы. Гэта ўжо другая вандроўка тэатра "Зьніч" ў Эстонію.

### З базы дадзеных інфармацыйнага цэнтру

**Саратаўская рэгіянальная грамадская арганізацыя Нацыянальна-культурная аўтаномія "Беларускае зямляцтва Паволжа"** была створана 2 чэрвеня 1999 г. Асноўнай мэтай аб'яднання з'яўляюцца спрыянне развіццю славянскіх традыцый. Сябрам зямляцтва можа стаць любы грамадзянін, каму не абыякавы лёс мовы і традыцый беларускага народа, усе, каму цікавы гісторыя і культура Беларусі. "Беларускае зямляцтва Паволжа" – арганізацыя маладая, але за час працы яе прадстаўнікі ўзялі ўдзел у шматлікіх мерапрыемствах, якія праводзіла кіраўніцтва Саратаўскай вобласці. Прымалі ўдзел у працы прэзідыума чэрвеньскай Асамблеі народаў Саратаўскай вобласці, сталі актыўнымі ўдзельнікамі грамадскіх міжнацыянальных канферэнцый і сустрэч. Арганізавалі прэзентацыю ў Саратаве НКА "Беларускае зямляцтва Паволжа", у межах якой была праведзена сустрэча з саратаўскімі СМІ. Зямляцтва пры падтрымцы спонсараў праводзіць дабрачынныя акцыі, аказвае сябрам зямляцтва і іншым грамадзянам усебаковую дапамогу. Пастаянна вядзецца праца па прыцягненню беларусаў да супрацоўніцтва з зямляцтвам.

З 13 сакавіка па 19 красавіка 2002 г. у гімназіі № 5 зямляцтвам праводзіўся месячнік беларускай культуры. У межах гэтага мерапрыемства праводзіліся віктарына, конкурсы сачыненняў, малюнкаў, прысвечаных Беларусі. У заключны дзень прайшоў канцэрт, які быў падрыхтаваны сябрамі зямляцтва і вучнямі гімназіі. Падчас канцэрта выконваліся беларускія народныя песні і танцы, вучні чыталі вершы на беларускай мове, гучалі песні аб Беларусі. У перапынках паміж канцэртнымі нумарамі ўзнагароджваліся пераможцы віктарыны. Пасля канцэрта дзеці былі запрошаны ў сталоўку, дзе для іх падрыхтавалі смачныя стравы беларускай кухні.

24 мая святкавалі "Славянскій венец" (свята, прысвечанае Дню славянскай пісьменнасці і культуры). Зямляцтва прыняло ў гэтым свяце самы актыўны ўдзел. Фальклорныя калектывы выконвалі беларускія песні. У інсцэнаванай хаце былі прадстаўлены: куток з літаратурай беларускіх пісьменнікаў і кнігі аб Беларусі, вырабы беларускіх народных промыслаў з лазы і саломкі, дрэва і керамікі, ткацтва і вышыўка. А сапраўдным упрыгожаннем хаты стаў дэгустацыйны стол са стравамі беларускай кухні.

*А. Кужэлка, старшыня Рады НКА "Беларускае зямляцтва Паволжа"*

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015



## Беларуская Біблія

У Мінску накладам 10 тысяч асобнікаў выдадзены першы поўны пераклад кананічнага тэксту Бібліі на сучасную беларускую літаратурную мову. Аўтарам перакладу з'яўляецца Васіль Сёмуха, які прысвяціў гэтай працы 14 гадоў свайго жыцця. Пераклад Баблії на старабеларускую мову належыць пяру Францыска Скарыны, які парушыў правa царквы на тлумачэнне біблейскіх тэкстаў. У другой палове XX ст. Ян Станкевіч пераклаў Біблію на віленска-літоўскі дыялект беларускай мовы. Аднак гэтыя пераклады не былі прызнаны Царквой. Біблія ж у перакладзе В. Сёмухі пад рэдакцыяй Юркі Рапецкага (Канада) выдадзена з благаславення мітрапаліта Мікалая, главы Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы ЗША і Канады, а таксама Хрысціянскай пратэстанскай місіі ў Канадзе. Па прычыне рознагалосся з Рускай праваслаўнай царквой сп. Сёмуха адмовіўся ад супрацоўніцтва з ёй, каб захаваць творчую свабоду. Фінансавалі выданне сам перакладчык, яго дачка Леся, сын Сяргей, прадстаўнікі нацыянальнай дыяспары ў Канадзе, ЗША, беларускія бізнесмены. Кніга хутка будзе прадавацца ў крамах хрысціянскіх канфесій, штаб-кватэрах грамадскіх аб'яднанняў Беларусі.

**Выдаўцы кнігі вельмі зацікаўлены, каб Біблію атрымалі тыя, хто не ў стане за яе заплаціць. Таму звяртаемся да ўсіх, хто можа прыдбаць Біблію не толькі для сябе, але і выкупіць неабходную колькасць накладу для дамоў міласэрнасці, школ-інтэрнатаў, дзіцячых дамоў, бібліятэк следчых ізалятараў і месцаў зняволенняў, хворых і сацыяльна незабяспечаных людзей, дапамажыце гэтай катэгорыі насельніцтва! Таксама, калі вы ў стане купіць Біблію на роднай мове для школ і дзіцячых садкоў, бібліятэк – зрабіце гэта!**

За дадатковай інфармацыяй звяртайцеся ў офіс МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына":
тэл. 289-31-94



## Візы ў Беларусь

З 14 чэрвеня Беларусь павялічвае цэны на ўсе катэгорыі ўязных віз для грамадзян Літвы на 5 долараў, а на транзітныя — на 3 долары. Аднаразовая ўязная віза будзе каштаваць 15 долараў, аднаразовая транзітная – 8 долараў. За тэрміновае афармленне віз будзе прымяняцца іншы тарыф. Узмацненне візавага рэжыму напрамую закране амаль 500 тысяч беларусаў, якія жывуць за межамі рэспублікі. Узмацненне візівага рэжыму з Літвой, Латвіяй, Польшчай напрамую закране 320 тысяч беларусаў, якія жывуць у Польшчы, 97 тысяч, якія жывуць у Латвіі, і 65 тысяч, якія жывуць у Літве. Гэтыя лічбы прывёў у ходзе прэс-канферэнцыі ў Мінску намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Герасіменка. Дыпламат нагадаў, што ўмовы праезду беларускіх грамадзян у Літву рэгуляваліся міжурадавымі пагадненнямі, згодна з якімі бязвізавы ўезд у Літву мелі грамадзяне прыгранічных раёнаў, работнікі авія, чыгуначнага і аўтамабільнага пасажырскага транспарту, перавозчыкі грузаў, грамадзяне старэй за 60 гадоў і шэраг іншых катэгорый. З 1 студзеня 2003 года візавы рэжым уводзіцца для ўсіх катэгорый грамадзян.

*"Звязда". 2002. 18 чэрв.*

## Клуб "Гаспадар" запрашае да супрацоўніцтва!

Галоўнай мэтай стварэння Клуба "Гаспадар" з'яўляецца аб'яднанне на ўзаемавыгаднай аснове юрыдычных і фізічных асоб, эканамічных і юрыдычных экспертаў для ўдзелу ў праграмах па развіццю беларускага бізнесса і спрыяння эканамічным рэформам у Беларусі.

Прапануюцца наступныя накірункі супрацоўніцтва:

1 Стварэнне адзінага Банку дадзеных.

2 Размяшчэнне на сайце інфармацыі аб партнёрах.

3 Абарона інтарэсаў сяброў клуба ва ўладных структурах.

4 Спрыянне ў пошуку інвестыцый.

5 Павышэнне кваліфікацыі, навучанне і стажыроўкі.

6 Наладжванне міжнароднага супрацоўніцтва.

7 Арганізацыя клубных сустрэч.

Больш падрабязную інфармацыю вы можаце атрымаць па наступнаму адрасу:

*Рэспубліка Беларусь, 220050, г.Мінск, а/с 534*
*тэл. (+375 17) 2222718, 2891286*
*E-mail:liucka@tut.by, gaspadar@gaspadar.com*
*Сайт: www.gaspadar.com*

## Юбілейныя выданні

МГА "Беларускі кнігазбор" плануе ў гэтым годзе выпусціць у сваёй серыі кнігу Выбраных твораў Янкі Купалы. Выданне будзе прысвечана 120-годдзю песняра. Таксама плануецца выдаць кнігу славутага беларуса Ігната Дамейкі "Мае падарожжы" ў перакладзе Здзіслава Сіцькі. Гэта кніга таксама юбілейная і прысвечана 200-годдзю з дня нараджэння гэтага выдатнага беларускага дзеяча.

20 чэрвеня, на 86-м годзе жыцця, у Таронта памёр уладыка Мікалай, архіепіскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Яго імя ад нараджэння – Міхал Мацукевіч. Ён нарадзіўся 21 траўня 1917 года ў Самарскай губерні. Маці памерла, калі хлопчыку было 6 месяцаў, а бацька вярнуўся ў Беларусь, у родны Мотыль, у 1921 годзе. Пад час Другой сусветнай вайны Міхал Мацукевіч апынуўся ў канцлагеры. У канцы вайны ён служыў у польскім войску ў Англіі. Там жа Міхал Мацукевіч і далучыўся да беларускага згуртавання. З 1951 г. ён пераехаў у Канаду. Пераканаўшыся, што беларуская грамада ў Канадзе загіне без сваёй царквы, ён пайшоў вучыцца на святара. Адукацыю ён атрымаў у Канадзе, у Вініпегу, у Калегіі св. Андрэя.

*Управа Згуртавання "Бацькаўшчына" выказвае глыбокія спачуванні ўсім прыхажанам Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы ў сувязі са смерцю яе першага іерарха.*

Бюлетэнь інфармацыйнага цэнтра МГА ЗБС «Бацькаўшчына». Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.

Меркаванні аўтараў публікацый могуць не супадаць з думкай рэдакцыі, друкавацца дзеля палемікі. Адказная за выпуск Алена Макоўская.

Адрас рэдакцыі: 220050, Рэспубліка Беларусь г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 15 zbsb@lingvo.minsk.by

Наклад 200 экз.

© PDF: Kamunikat.org 2015 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2015